


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

23 сакавіка 2001 года

№ 12 (309)

Выходзіць па пятніцах

TV ПЛЮС

## Навіны рэгіёна

### Век дажывуць у радыяцыі

**ВІЛЕЙКА.** Вёска Заазер'е, што ў Любанскім сельсавеце, – адзіная ў раёне, якае падлягае высяленню з-за радыяцыйнай забруджанасці. Паказчык радыяцыі – звыш за пяць кюры на квадратны кіламетр.

У вёсцы 45 жыхароў, усе пенсіянеры. 21 з іх мае ўзрост звыш за 80 год. Таму на прапанову перасяліцца ў чыстую зону ўсе адмовіліся. Дажываць свой век будуць у радыяцыі.

**Наталля МІХАЙЛАВА.**

### Перайменавалі вуліцу

**МАЛАДЗЕЧНА.** Па патрабаванні жыхароў самая працяглая ў Лебедзеве вуліца "50 год ВЛКСМ" перайменаваная ў Крынічную. Менавіта ад гэтай вуліцы бярэ пачатак невялікая рачулка Нявежа, што ўпадае ў больш паўнаводную Ушу.

**Алесь ЦАДКО.**

### Анатоль Лябедзька ідзе ў народ

**АСТРАВЕЦ.** Тут прайшла сустрэча членаў раённай арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі са старшынёй АГП Анатолем Лябедзькам.

А. Лябедзька ахарактарызаваў ролю партыі на дадзеным этапе ў грамадстве і цяперашняй сітуацыі. Былі намечаныя канкрэтныя мэты і задачы раённай арганізацыі АГП на бліжэйшы перыяд па падрыхтўцы і правядзенні прэзідэнцкіх выбараў 2001 года. У раённую арганізацыю АГП прыняты яшчэ адзін астравечанін.

**Іван КРУК.**

### І зноў у ВНУ – за кошт завода

**СМАРГОНЬ.** На заводзе аптычнага станкабудавання адноўленая практыка падрыхтоўкі спецыялістаў у ВНУ за кошт прадпрыемства.

Па выніках мінулага года рост аб'ёму вытворчасці склаў 45%. 284 мільёны прыбытку дазволілі прафінансаваць асноўныя патрэбы вытворчасці, сацыяльныя праграмы. Работнікі без затрымак атрымліваюць зарплату, іх забяспечваюць спецадзеннем. Адкрытая заводская сталовая, працуе стол заказаў.

**Павел МАКЛЮК.**

### Чыгунка падаражэла

**МАЛАДЗЕЧНА.** З аўторка на 50% павялічылася аплата за праезд у пасажырскіх і прыгарадных цягніках. Кошт зоны ў прыгарадных цягніках узрастае з 40 да 60 рублёў.

Цяпер поўны білет да Мінска ў адзін бок каштуе 540 рублёў. Начальнік чыгуначнага вакзала **Надзея Стаўпінская** лічыць, што пасажыраперавозкі з Маладзечна да Мінска і пасля павышэння застануцца стратнымі.

Рашэнне аб павелічэнні прыняло Упраўленне Беларускай чыгункі. Да гэтага цэны ўзрасталі апошні раз у лістападзе мінулага года з 20 да 40 рублёў за зону.

Ільготамі на праезд будуць карыстацца тыя ж катэгорыі грамадзян, што і да павышэння.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Перавядзіце стрэлкі на «летні час»

Міжведамасная камісія па часе і эталонных частотах нагадвае, што з 25 сакавіка па 28 кастрычніка мы ў чарговы раз будзем жыць па «летнім часе».

Такім чынам, а 2-й гадзіне ночы 25 сакавіка перавядзіце стрэлкі на 1 гадзіну наперад.

### Надвор'е на выхадныя

**Субота, 24 сакавіка**

Мінск
-2 – -5°С (уначы)
2 – -3°С (удзень)



Вільня
-4°С (уначы)
3°С (удзень)



**Нядзеля, 25 сакавіка**

Мінск
-4 – -7°С (уначы)
-3 – 5°С (удзень)



Вільня
-3°С (уначы)
5°С (удзень)



# Пэтэвэшнікі засталіся жывыя

**МАЛАДЗЕЧНА. У мінулы чацвер у нежылым будынку былога інтэрната ПТВ-21 абваліліся са столі 2 пліты. У той момант туды завіталі на перакур навучэнцы першага курса. На шчасце, нікога не забіла. Два навучэнцы абышліся лёгкімі ўдарамі. На наступны дзень яны былі на занятках.**



У будынку былога інтэрната ПТВ-21 цудам засталіся жывыя падлеткі. Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

Многія гараджане ведаюць гэты будынак "без вокнаў і дзвярэй", які пустуе восьмы год. На наступны дзень пасля аварыі разбурылі адну са сцен. Дырэктар ПТВ-21 **Міхаіл Шніп** гаворыць, што гэта было зроблена з-за патрабаванняў бяспекі. Тая сцяна пасля таго, як абваліліся пліты, літаральна хадзіла хадуном і магла ў любы момант разваліцца.

– Гэты будынак даўно не наш, – удакладняе дырэктар ПТВ. – Аблвыканком яшчэ ў чэрвені 1995 года сваім рашэннем перадаў яго ва ўласнасць горада. Па адным з варыянтаў, там планавалася размясціць школу. Будынак ужо столькі год стаіць безнаглядны; цагляная калона, што трымала пліты, магла разбурыцца ад уздзеяння сырасці. А можа, нехта выцягнуў некалькі цаглін адтуль. Навучэнцы гаварылі, што колькі разоў бачылі, як нехта выносіў з будынка цэглу. Там і бамжы жылі. Я на момант здарэння быў у Мінску. Хлопцаў адразу адправілі ў бальніцу, там ім зрабілі здымкі. Нічога сур'ёзнага, дзякуй богу, не здарылася. У той жа дзень у гарвыканкоме адбылася нарада ў **Яфіма Ідэльчыка**, на якой вырашылі бурыць сцяну. З чацвярга на пятніцу мы арганізавалі кругласутачнае дзяжурства, абгарадзілі небяспечнае месца. На наступную раніцу сабралі на нечарговую лінейку ўсіх навучэнцаў і папярэдзілі пра небяспеку знаходжання ў сярэдзіне будынка і каля яго. Былі на лінейцы і пацярпелыя.

У горадзе ёсць яшчэ падобныя будынкі "без вокнаў і дзвярэй" – па вуліцы Ясінскага, прыкладам. Чакаем, пакуль абваліцца.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Экспрэс-апытанне маладзечанцаў

# Як вы ацэньваеце сёлетнюю «Сакавіцу»?



**Валянціна Людкевіч, метадыст:**

– Гэта мая першая "Сакавіца". Найбольшае ўражанне – поўныя аншлагі. "Сакавіца" – цікавае мерапрыемства, але вялікая нагрузка на культурныя ўстановы горада. Абласны драматычны тэатр выступіў на ўзроўні. Спадабаліся **Аляксандр Пашкевіч** і хлопчык у галоўнай ролі ў спектаклі "Кім".



**Наталля Скібіна, прадавец:**

– Шкадую, што не трапіла на фестываль, працавала. У нас на рабоце ўсе шкадавалі. І раней на "Сакавіцах" не была, у асноўным, па той жа прычыне. Лічу, што падобныя фестывалі патрэбныя, таму што ў нас мала святаў у жыцці. А тэатр раней наведвала, вельмі падабаецца.



**Святлана Чыжыкава, дырэктар магазіна:**

– Я прынцыпова за "Сакавіцу". Такія мерапрыемствы карысныя, асабліва для моладзі, іх патрэбна вітаць і падтрымліваць. Фестываль наведваю з самага пачатку. Калі параўнаць з леташнім, то падбор спектакляў год таму быў лепшы. І штогод узнікае пытанне: чаму ў журы няма рэжысёраў?



**Вольга Вароніна, бібліятэкар:**

– Была ў пятніцу на трох спектаклях у Доме культуры чыгуначнікаў. Спадабаўся "Танец кахання". Увогуле, лічу, "Сакавіца" – вельмі карыснае мерапрыемства для горада. Шкада, што білеты дарагаватыя – па 3 тысячы.

**Фотаапытанне падрыхтаваў Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

### Дом культуры закрылі пажарныя

**ВІЛЕЙКА. Пазаўчора Вілейскі гарадскі дом культуры закрыты пастановай абласнога ўпраўлення Міністэрства надзвычайных сітуацый Беларусі.**

На працягу амаль дзесяцігоддзя тут сістэматычна не выконваюцца правілы супрацьпажарнай бяспекі. Не працуе сістэма тушэння пажару, няспраўная супрацьпажарная сігналізацыя, не апрацаваныя спецыяльным саставам супраць узгарання дэкарацыі... Спецыяльныя службы ўжо выносілі аналагічныя рашэнні раней, але становішча не змянілася. Наваг пагоршылася. У апошнія часы пры правядзенні масавых мерапрыемстваў зачасцілі пабач з домам культуры знаходзілася пажарная машына, пажарныя.

Установа будзе зачыненая да выпраўлення парушэнняў. Дом культуры – гэта не толькі глядзельная зала, але і буйнейшая ў горадзе бібліятэка, метадычныя кабінеты... Сёння дзверы гэтага будынка адчыненыя толькі для правядзення супрацьпажарных работ.

**Мікола ГАЙДУК.**

# Адкрыты Цэнтр літоўскай культуры

**АСТРАВЕЦ. У мінулыя выхадныя ў Рымдзюнах адбылося адкрыццё Цэнтра літоўскай культуры, адукацыі і інфармацыі.**

Астравеччына – раён шматнацыянальны. Тут спрадвеку сяліліся і жылі беларусы і палякі, рускія і літоўцы. Напэўна, менавіта літоўцы заснавалі тут паселішча Гервяты – самае старажытнае на Астравеччыне. Першае згадванне пра яго ў летапісе датуецца 1271 годам. З таго часу і жывуць літоўцы на тэрыторыі Гервяцкага сельсавета, захоўваючы сваю мову, традыцыі і звычкі.

Літоўскую мову ў Гервяцкай школе вывучаюць з 1954 года. З дзесятак год таму, калі з агульнага інтэрнацыянальнага дома былыя саюзныя рэспублікі разбегліся па ўласных кватэрах, памежныя літоўцы разгубіліся: ці ўдасца ім захаваць сваю адметную самабытнасць, мову, каб перадаць яе дзецям. **Альфонсас Аўгуліс** нарадзіўся ў Рымдзюнах, непадалёку ад Гервят. Усё дарослае жыццё жыве ў Літве. Менавіта ён звярнуўся ва ўрад Літвы з ідэяй стварыць у Рымдзюнах Цэнтр літоўскай культуры, адукацыі і інфармацыі.

Праект будучага цэнтра падпісала 10 год таму тагачасны прэм'ер **Казімера Прунскене**. У 1996 годзе ў Рымдзюнах урачыста адкрывалі будынак новай школы. Дакладней, пад адным дахам размясціліся дзве школы: адна з літоўскай, другая з беларускай мовай навучання.

А ў мінулыя выхадныя ў Рымдзюнах адбылося адкрыццё Цэнтра літоўскай культуры, адукацыі і інфармацыі. Лічыцца, што Бог пераблытаў усе мовы, каб людзі не змаглі зразумець адзін аднаго і пабудавалі вежу да нябёсаў. Рымдзюны – прыклад супрацьлеглы: на адкрыцці Цэнтра гучалі і беларуская, і літоўская, і руская мовы, але гэта не перашкаджала людзям добра разумець адзін аднаго. Ды і збудавалі Цэнтр разам – і беларусы, і літоўцы.

У вестыбюлі прасторнага будынка іграў аркестр. Юнакі і дзяўчаты ў літоўскіх нацыянальных строях вясёлай музыкай сустракалі гасцей. Аказалася, што музыкі мясцовыя – з народнай капэлы літоўскай школы ў Рымдзюнах.

У будынку размесціліся глядзельная, танцавальная і абрадавая залы, пакой для гуртковых заняткаў, кавярня. Ёсць плошча для бібліятэкі і чытальнай залы.

Асноўнае дзеянне ў той дзень змясцілася менавіта ў глядзельную залу. Стужку перад уваходам у яе перарэзалі член Сойма Літоўскай Рэспублікі Казімера Прунскене і намеснік міністра культуры Беларусі **Валерый Гедройц**.

Новы будынак асвячаў мясцовы ксёндз **Леанід Місцюк**. Старшыня літоўскай суполкі Беларусі **Вергілія Тарнаўскайтэ** і старшыня Астравецкага райвыканкома **Адам Кавалька** робяць паварот сімвалічнага ключа, які перадалі будаўнікі, – і зала гасцінна адчыняе дзверы, упускае шматлікіх гасцей. Не было канца віншаванням, падарункам, нечаканым сюрпрызам.


Фота IREX/ProMedia.
**Тут заўсёды жылі і беларусы, і літоўцы. Касцёл у Гервятах.**

Прадстаўнікі літоўскіх суполак з Гродна, Астравеччыны, Ліды, Радуні спявалі свае песні, і зала дружна падпявала ім.

Намеснік міністра замежных спраў Літоўскай Рэспублікі **Эвалдас Ігнатавічус** назваў стварэнне Цэнтра ў Рымдзюнах мастом паміж дзвюма нацыямі. Важнай падзеяй стала падпісанне пратакола аб супрацоўніцтве на 2001 год паміж Дзяржкамітэтам па справах рэлігіі і нацыянальнасцяў РБ і Дэпартаментам нацыянальных меншасцяў і эміграцыі пры ўрадзе Літоўскай Рэспублікі.

**Наталля МІХАЙЛАВА.**

■ **МЕРКАВАННЕ**

# Акцёр Яўген Іўковіч прапануе змяніць ідэю «Сакавіцы»

**МАЛАДЗЕЧНА. Тут з пятніцу па нядзелю праходзіў чарговы тэатральны фестываль "Маладзечанская Сакавіца". Акцёр Мінскага абласнога драмтэатра Яўген Іўковіч прысутнічаў на ўсіх "Сакавіцах".**

Сёлетняя – першая для яго ў якасці гледача. Пасля прагляду спектакляў у акцёра з'явілася ідэя мадэрнізаваць "Сакавіцу". Яму слова.

Калі "Сакавіца" стваралася, яна задумвалася **Генадзем Карпенкам** як фестываль майстроў. Сюды прыязджалі заслужаныя артысты, сапраўдныя зоркі. Гэта было цікава. Так прайшлі першыя два фестывалі. А потым яны ператварыліся ў фестываль камерных тэатраў. Я не гавару, што гэта блага, проста гэта іншая ідэя. Вядома, фінансавыя выдаткі, каб прывезці з Мінска невялічкія тэатры, мінімальныя.


**Яўген Іўковіч.** Фота з сямейнага архіва.

У гэтай "Сакавіцы" мяне ўразілі тры апошнія спектаклі. Для мяне яны аказаліся новыя, як для акцёра. Тут былі і нейкія эксперыменты, рэжысёрскія і акцёрскія навінкі. Каб астатнія спектаклі былі падобныя, то гэты фестываль вылучыўся б з апошніх.

Я прапаную на наступныя фестывалі прывозіць толькі абласныя тэатры і, магчыма, адзін сталічны. Сёлета цікавую работу прывезлі магіляўчане. Асабіста я не ведаю, што ёсць такі добры спектакль, як "Трышчан ды Ізота". Што ставяць іншыя абласныя тэатры, мы таксама не ведаем, таму што з-за недахопу грошай мала гастралюем. А калі штогод збіраць абласныя тэатры з лепшымі пастаноўкамі за мінулы год, было б, на мой погляд, цікава. Я падзяліўся ідэяй з тэатральным крытыкам Таццянай Арловай. Ёй мае думкі спадабаліся. Але, на жаль, не мы вырашаем, якім быць фестывалю.

**Запісаў Юрый КАРПІЦКІ.**

■ **НАША ГІСТОРЫЯ**

# Як пад Нараччу Парыж ратавалі

**МЯДЗЕЛ. 85 год таму, з 18 па 28 сакавіка (па новым стылі), адбылася Нарачанская аперацыя. Працяглы час вывучаў падзеі 1–й сусветнай вайны на Мядзельшчыне мясцовы краязнаўца Уладзімір Серадзінскі. Ён лічыць, што правядзенне Нарачанскай аперацыі дапамагло выратаваць Парыж.**

– Саюзнае камандаванне пралічылася ў намерах немцаў: меркавалі, што яны будуць у гэты час у асноўным весці баі на руска–нямецкім фронце, але кайзераўскія войскі нечакана пачалі наступленне ў раёне крэпасці Вэрдэн. Форт Дуамон паў, і шлях на Парыж быў адкрыты. Французскае камандаванне звярнулася з просьбай да рускага, каб тыя правялі буйную аперацыю на тэрыторыі руска–германскага фронта, і гэтым самым адцягнулі на сябе ўвагу кайзераўскіх войскаў. Было вырашана правесці гэту аперацыю на тэрыторыі цяперашніх Мядзельскага і Пастаўскага раёнаў. Самыя жорсткія баі адбыліся ў раёне вёсак Занарач–Чарэмшыцы. І тады ж упершыню на руска–германскім фронце адбылася газавая атака з боку немцаў.

Расказваў **Уладзімір Серадзінскі** і пра такія моманты баёў.

– Было разводдзе, і рускія салдаты, асабліва каля Занарачы, стаялі па калена ў вадзе. І калі воін гінуў ад кулі праціўніка (а ў баі не да таго было, каб адносіць трупы), то здаралася, што салдаты станавіліся на іх – і так працягвалі бой.

Аперацыя афіцыйна працягвалася дзесяць дзён, але ў адным месцы баі цягнуліся і далей.

Паміж вёскамі Занарач і Жалезнікі быў выступ. На карце ён камусьці падаўся падобным на нос балгарскага цара Фердынанда. І адзін са штабных афіцэраў, калі дакладваў цару Мікалаю II пра ход аперацыі, сказаў, што «мы хутка абрэжам Фердынанду нос». Аперацыя ўжо закончылася, а на гэтым выступе баі працягваліся яшчэ 10 дзён, бо баяліся дакладаць цару, што нос Фердынандаў яшчэ «неабрэзаны».

Для рускіх войскаў Нарачанская аперацыя плёну не прынесла, хаця яны мелі перавагу ў жывой сіле: у 5 разоў (пяхота) і ў 2 разы (кавалерыя). Але не хапала снарадаў, патронаў, былі цяжкасці з харчаваннем, абмундзіраваннем, бракавала і разумнага кіраўніцтва.

2-я армія, якая наносіла галоўны ўдар, не далічылася тысячы афіцэраў і 77,5 тысячы салдатаў. Страты немцаў напалову меншыя: 30–40 тысячаў. Адзіным карысным вынікам аперацыі для саюзных войскаў стала тое, што сюды была сцягнутая значная колькасць нямецкіх рэзерваў – і гэта стала палёгкай для французскай арміі.

На Мядзельшчыне і дагэтуль застаюцца сляды тых баёў. Ёсць некалькі брацкіх магіл рускіх салдатаў. Найвялікшая – у вёсцы Княгінін (пахавана 2500 воінаў, якія загінулі ад газавых атак). Там ўстаноўлены помнік. Засталіся і нямецкія пахаванні.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ **ПАЗАШКОЛЬНАЯ РАБОТА**

# Навука і тэхніка школьнікаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Каманда цэнтра пазашкольнай работы брала ўдзел у абласным тыдні навукі, тэхнікі і творчасці.**

У раздзеле "Дэкаратыўна-прыкладная творчасць" работа са скуры "Кветкі Беларусі" **Насці Квітун** (СШ №2) заняла І месца, на ІІІ – навучэнец ПТВ-48 Вілейкі **Анатоль Якубовіч** з работамі, выкананымі ў тэхніцы "разьба па дрэве".

У раздзеле "Спартыўна-тэхнічнае мадэліраванне" **Ілья Васільеў** (СШ №2) заняў ІІ месца з мадэллю старажытнаегіпецкага судна, а пілатажная мадэль самалёта **Аляксандра Канькова** (СШ №2) была на IV месцы. У раздзеле "Навука, вынаходніцтва і рацыяналізацыя" **Вадзім Цюкін** (СШ №12) з мадэллю аўтамат-эканом заняў ІІІ месца. Прыбор ахоўнай сігналізацыі, распрацаваны **Сяргеем Кажурам** (СШ №12), заняў IV месца ў раздзеле "Радыёэлектроніка".

**Надзея ЯРКОВІЧ.**

■ **АНОНС**

# Дабрачынны канцэрт на помнік Агінскаму

**МАЛАДЗЕЧНА. У панядзелак у канцэртнай зале музвучылішча а 18–й гадзіне адбудзецца канцэрт.**

Прыязджае мінскі камерны калектыў "Класік-авангард". У праграме – старажытная і сучасная музыка. Кошт білета 1000 рублёў. Усе сродкі пойдуць на ўзвядзенне ў Маладзечне помніка Агінскаму.

Білеты можна набыць у кабінеце №76 музвучылішча.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Кінатэатр «Радзіма»

**Вялікая зала, сакавік**

23 – 25 **"Гладыятар"**, 2 серыі, ЗША 15-40, 18-30, 21-10
27 сакавіка – 1 красавіка **"Без пачуццяў"**, ЗША, прэм'ера, камедыя 15-00, 17-00, 19-00, 21-00

**Для дзяцей**

25 – **"Патруль бяспекі"** 12-00
26 – **"Дарога дадому"** 12-00
27 – **"Вясёлыя дзянькі на самым ціхім захадзе"** 12-00
28 – **"Дарога дадому-2"** 12-00
29 – **"Міс мядзведзіца"** 12-00

■ **ДНІ**



23 сакавіка – **Сусветны метэаралагічны дзень**
25 сакавіка – **Дзень Беларускай навукі**
**Дзень работнікаў гандлю, бытавога абслугоўвання насельніцтва і жыллёва-камунальнай гаспадаркі.**
27 сакавіка – **Міжнародны дзень тэатра**
**150 год з дня нараджэння А. Сапунова**, беларускага гісторыка і краязнаўцы.

■ **ІМЯНІНЫ**

**23 сакавіка**
Праваслаўныя: **Васілісы, Галіны, Фядоры, Віктара, Дзяніса, Купрыяна, Клаўдзія, Леаніда, Нікіфара, Паўла, Серафіма.**
Каталіцкія: **Пелагеі, Фелікса.**

**24 сакавіка**
Праваслаўныя: **Сафрона, Яфіма.**
Каталіцкія: **Кацярыны, Габрыеля, Марка.**

**25 сакавіка**
Праваслаўныя: **Епіфана, Рыгора, Сямёна, Феафана.**
Каталіцкія: **Марыі.**

**26 сакавіка**
Праваслаўныя: **Хрысціны, Аляксандра, Нікіфара.**
Каталіцкія: **Тодара, Эмануіла.**

**27 сакавіка**
Праваслаўныя: **Венядзікта, Міхаіла, Расціслава.**
Каталіцкія: **Лідзіі, Руперта, Яна.**

**28 сакавіка**
Праваслаўныя: **Аляксандра, Гапея, Дзяніса, Нікандра.**
Каталіцкія: **Анелі, Сікста, Яна.**

**29 сакавіка**
Праваслаўныя: **Аляксандра, Трафіма, Юльяна.**
Каталіцкія: **Бартольда, Яўстаха.**

## Выраслі тарыфы на паслугі электрасувязі

**МІНСК. 19 сакавіка ў Беларусі на 20–30% выраслі тарыфы на паслугі ўнутрырэспубліканскай сувязі.**

Кошт унутрыгарадской хвіліны размовы з кватэрнага тэлефона каштуе 2,57 рубля, унутры вобласці — 7,5 рубля, паміж абласцямі — 15 рублёў. Тарыфы для прадпрыемстваў і арганізацый павысіліся адпаведна да 3,89, 8,5 і 17 рублёў.

Абаненцкая плата за карыстанне тэлефонам, пераведзеным на пагадзінную аплату, вырасла да 524 (для насельніцтва) і 830 рублёў (для прадпрыемстваў і арганізацый), за карыстанне тэлефонам, не пераведзеным на пагадзінную аплату, — да 842 (для насельніцтва) і 1.588 рублёў (для прадпрыемстваў і арганізацый).

Электронная магнітная картка на 120 хвілін для ўнутрыгарадскіх размоў па таксафоне падаражэла да 1.212 рублёў.

Кошт аднаго слова ў звычайнай тэлеграме павялічыўся да 10,9 (для насельніцтва) і 15,6 (для прадпрыемстваў і арганізацый) рубля, у тэрміновай — адпаведна да 21,8 і 31,2 рубля.

Папярэдняе павышэнне тарыфаў на паслугі ўнутрырэспубліканскай сувязі адбылося 19 студзеня.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## Жыллё за сродкі насельніцтва

**СМАРГОНЬ. 77% ад агульнай колькасці жылля пабудавана тут летась за кошт сродкаў насельніцтва.**

Дзяржаўныя прадпрыемствы і арганізацыі ўвялі за свой кошт 3% ад агульнай колькасці кватэр. У сельскай мясцовасці пабудавана 40% ад 17 тысяч квадратных метраў жылля ў раёне.

Застаецца і незавершанае будаўніцтва. На пачатак сакавіка не дабудавана 39 жылых дамоў агульнай плошчай 13,5 тысяч квадратных метраў.

**Павел МАКЛЮК.**

■ **ПАСАДЫ**

## Лёс пасады вырашыць старшыня аблвыканкома

**ВАЛОЖЫН. За адсутнасць кантролю за ходам зімоўкі ў гаспадарках раёна Мінскі аблвыканкам падрыхтаваў распараджэнне аб звальненні Зігмунта Лужынскага з пасады начальніка раённага ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання.**

Падобныя пытанні канчаткова вырашае старшыня аблвыканкома Мікалай Дамашкевіч, які цяпер знаходзіцца ў адпачынку. Да яганага выхаду на работу цяперашні начальнік раённага ўпраўлення сельскай гаспадаркі будзе працаваць на сваім месцы.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## «Камароўка» з вуліцы Будаўнікоў

**МАЛАДЗЕЧНА. "Камароўкай" называюць маладзечанцы маленькі рыначак на скрыжаванні вуліц Будаўнікоў і Скарыны. Кантынгент пакупнікоў, у асноўным, "раённы". Гандлююць на ім як прадпрымальнікі, так і пенсіянеры, якія найчасцей займаюцца гандлем пакуль бясплатна – яны не плацяць за месца на рынку.**

За 1400 рублёў вы можаце набыць тут кілаграм часнаку ці кілаграм лімонаў. Крыху танней (1250–1150 рублёў) каштуе кілаграм апельсінаў. А вось за кілаграм агуркоў давядзецца дастаць з кішэні 1650 рублёў. За цыбулю, моркву, свежую капусту просяць ад 180 да 300 рублёў. Вядзерца бульбы абыдзецца ў 350–500 рублёў, 1 кілаграм буракоў – у 200 рублёў, невялікі качан капусты, 1,5 л малака – па 400 рублёў. За гэтыя ж грошы можна тут набыць нават квашаную капусту (1 л).

Наладжаны на рыначку і гандаль кветкамі, хаця асартымент невялікі. Хрызантэмы прадаюць за 1800 рублёў, адзін гваздзік, букецік цюльпанаў – за 500 рублёў.

Наогул, спіс тавараў разнастайны і, разам з тым, асабліва. Прыкладам, маеце жаданне набыць шарсцяныя шкарпэткі ці вязаную шапачку, то можаце гэта зрабіць за 1500 рублёў. Хаця цэны гэтыя ўмоўныя. Жанчыны-гандляркі гавораць, што гандаль часам амаль не прыносіць даходу.



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА

**У аўторак ад раніцы пайшоў густы снег, таму прадаўцоў на "Камароўцы" было няшмат.**

Жанчыны, якія працуюць на прадпрымальнікаў, гавораць, што ўмовы гандлю аднолькавыя – як на цэнтральным рынку, так і на "камароўцы". Прычым, і розніца ў даходах невялікая.

Узрост прадаўцоў, у асноўным, пераходзіць саракагадовую мяжу.

Ёсць тут і пенсіянеры, якія не могуць пражыць на мізэрную пенсію. Менавіта гэты фактар штурхае іх на гандлёвыя справы. "Даход невялікі – капейкі, аднак і яны не перашкодзяць сямейнаму бюджэту", – гавораць жанчыны. Тым больш, у рыначным асяроддзі сфарміраваліся свае сяброўскія стасункі.

**Юлія ШАВЫРА.**

### Курсы валют НБ РБ

| | 15 сакавіка | 22 сакавіка |
|---|---|---|
| Долар | 1263,00 руб. | **1270,00** руб. |
| Нямецкая марка | 580,35 руб. | **584,93** руб. |
| Літ | 315,69 руб. | **317,54** руб. |
| Расійскі рубель | 44,06 руб. | **44,33** руб. |
| Злоты | 310,13 руб. | **310,40** руб. |
| ЕЎРА | 1148,76 руб. | **1144,02** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1290 – 1310 руб. | **1310 – 1330** руб. |

### Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 14.03 | 21.03 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 1850 | **1850** |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 5930 | **6490** |
| Сасіскі, 1 кг | 2100 | **2100** |
| Селядзец, 1 кг | 1250 | **1464** |
| Рыс, 1 кг | 470 | **480** |
| Грэчка, 1 кг | 470 | **460** |
| Цукар, 1 кг | 570 | **570** |
| Алей, 1 л | 670 | **670** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 650 | **650** |
| Маянэз, 200 г | 220 | **230** |
| Кава "Пеле", 100 г | 1400 | **1400** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 400 | **400** |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 370 | **370** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 170 | **190** |
| Капуста, 1 кг | 300 | **280** |
| Лімоны, 1 кг | 1250 | **1300** |
| Апельсіны, 1 кг | 1000 | **1150** |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 800 | **800** |
| Масла, 1 кг | 1800 | **1800** |
| Тварог, 1 кг | 800 | **900** |
| Малако, 1,5 л | 350 | **350** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 800 | **800** |
| Бульба, вялікае вядро | 700 | **800** |
| Морква, 1 кг | 350 | **350** |
| Яблыкі, 1 кг | 400 | **430** |

■ **НАШЫ ГРОШЫ**

## Куды патрацім зарплату?

**На мінулым тыдні сваё чарговае пасяджэнне ўрад прысвяціў праблеме росту запазычанасці па заработнай плаце, асабліва работнікам сельскай гаспадаркі. Не сакрэт, што і без таго невялікую зарплату многія атрымліваюць не ў час – на пачатак месяца запазычанасць перавысіла 11 мільярдаў рублёў.**

Заработная плата па краіне ў цэлым склала, у сярэднім, 89137 рублёў. У эквіваленце – каля 80 долараў. Нагадаю, што ў 1995 годзе было 77 долараў, у 1996 – каля 100, а цяпер меней. Для параўнання: у суседзяў-палякаў сярэдняя зарплата ў гадзіну складае 2,9 долара, а амерыканец – той, наогул, атрымлівае каля 17 долараў у гадзіну.

За вылікам падаткаў (па стаўцы ад 9 да 30%) застаецца няшмат – крыху больш за 60 долараў. Дзве трэція гэтай сумы выдаткоўваецца на прадукты харчавання – доля харчоў у тавараабароце пастаянна расце (на захадзе – менш за 25% выдаткаў сям'і). З прамысловых тавараў купляем, больш, па дробязях: шкарпэткі, кашулі.

Звычайны айчынны тэлевізар стаў прадметам раскошы – продажы падаюць, таму што растуць цэны. Адкладаць з зарплаты няма чаго: у 1997 годзе сярэдняя беларуская сям'я магла дазволіць зберагаць 10% даходаў, цяпер – менш за 4%.

Падманлівыя надзеі на рэзкі рост даходаў у сувязі з павелічэннем мінімалкі і стаўкі першага разраду з 1 сакавіка. Выплаты павялічацца, у асноўным, толькі ў бюджэтнікаў, а работнікам пазабюджэтнай сферы давядзецца самім адшукваць даходы для павелічэння сваіх акладаў. Хутчэй за ўсё, павелічэнне мінімальнай заработнай платы на 60% – з 3600 да 5700 – не прывядзе да павелічэння рэальных даходаў у такой самай прапорцыі.

У мінулым кастрычніку мінімалка паднялася на 38,5%, а сярэднемесячная зарплата па краіне – толькі на 16. І цяпер разлічваць даводзіцца толькі на 20–25% росту.

Прадэклараваную прэзідэнтам сярэднюю зарплату ў 100 долараў кожнаму давядзецца зарабляць самому. Як хто зможа. Дзяржава ў адказе толькі за бюджэтнікаў. Ведама, хтосьці зможа "накасіць" і 200 долараў, а ў кагосьці будзе нашмат менш за 100, але, у сярэднім, 100 будзе, як і паабяцана.

Пытанне толькі, што на гэтыя 100 долараў мы зможам купіць.

**М. А.**




**Параімся, куды прыстроіць свае грошыкі. Маладзечна, вул. Талстога.**

Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА

■ **КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА**

## Ці давяраеце вы міліцыі?

**АШМЯНЫ. На працягу 19 сакавіка жыхары Ашмяншчыны маглі выказаць свае прэтэнзіі, скаргі і пажаданні спецыяльна ўпаўнаважаным прадстаўнікам МУС. Абмен інфармацыяй ажыццяўляўся як па тэлефоне, так і падчас асабістых сустрэч.**

Гэта была акцыя Міністэрства ўнутраных спраў «Ці давяраеце вы міліцыі?» у Гродзенскай вобласці. Падчас мерапрыемства старшы афіцэрскі склад МУС праводзіў апытанне-гутарку з жыхарамі вобласці дзеля вывучэння іх меркавання аб ступені даверу да супрацоўнікаў праваахоўных органаў. Як адзначылі ў прэс-цэнтры Упраўлення ўнутраных спраў Гродзенскага аблвыканкома, з дапамогай такой формы даследавання кіраўнікі МУС збіраюцца вызначыць слабыя месцы ў рабоце міліцыі вобласці.

**Па матэрыялах БелаПАН.**

## Небяспечны лёд

**Населеныя пункты нашага рэгіёна з усіх бакоў акружаны рэкамі і азёрамі, дзе любяць бавіць вольны час рыбакі (цяпер надышла чарга аматараў зімовага лову рыбы). Аднак толькі за 2000 год на вадаёмах рэспублікі патанула 706 грамадзян, у тым ліку, 49 дзяцей.**

У сувязі з тым, што пагодныя ўмовы цяпер не вылучаюцца асаблівай устойлівасцю, сітуацыя на вадаёмах рэспублікі выклікае занепакоенасць многіх службаў. Асабліва ростам гібелі дзяцей з-за выхаду на лёд.

Па аператыўных дадзеных Таварыства выратавання на водах, з пачатку 2001 года пад лёдам патанула каля 30 чалавек, з іх 10 – дзеці.

З надыходам вясны, ростам тэмпературных перападаў, адлігай на вадаёмах утвараюцца праталіны, значна змяншаецца таўшчыня лёду. Таму варта перасцерагчы ўсіх аматараў падлёднага лову: штогод увесну вы ідзіце на лёд і кожны раз гэта не абыходзіцца без прыгод. Часам бываюць чалавечыя ахвяры, заўсёды ёсць вымушаныя матэрыяльныя выдаткі на выратаванне рыбакоў-недарэкаў.

Інспекцыя па справах непаўналетніх Маладзечанскага АУС на транспарце настойліва раіць забараніць наведванне вадаёмаў дзецямі.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## Снарад на чыгунцы

**МАЛАДЗЕЧНА. Пры правядзенні земляных работ для будаўніцтва водаправода на тэрыторыі чыгункі былі знойдзены 2 снарады.**

Інспектар па прафілактыцы Алег Духоўнік гаворыць, што паступіла паведамленне ад пасажыра: каля 22 пуці ст. Маладзечна знайшлі снарад. На месца хутка прыбыла опергрупа АУС на транспарце пад камандай начальніка АУС **Юрыя Вараб'ёва**. Было выяўлена, што снарады ляжаць тут з ваенных часоў, арганізаваная ахова небяспечнай знаходкі.

На другі дзень работнікі ваенкамата і сапёры, што прыбылі на месца здарэння, з дапамогай мінашукальніка непадалёк знайшлі яшчэ адзін 76-міліметровы снарад. Сапёры вывезлі іх у скрыні за тэрыторыю горада і абясшкодзілі.

**Ганна СЯНЬКО.**

**ЗЕМЛЯКІ**

# Генерал Люцыян Жалігоўскі

Генерал Войска Польскага, паплечнік Юзафа Пілсудскага і прыхільнік стварэння федэрацыйнай дзяржавы Польшчы і Літвы як пераемніцы традыцый Вялікага Княства Літоўскага, Люцыян Жалігоўскі нарадзіўся ў Ашмянах у шляхецкай сям'і 17 кастрычніка 1865 года. Бацькамі яго былі паўстанец 1863 года Густаў Жалігоўскі і Уладзіслава (з Трачэўскіх).



**Генерал Люцыян Жалігоўскі, ураджэнец Ашмянаў, стваральнік дзяржавы пад назвай Сярэдняя Літва, частка якой існавала ў межах нашага рэгіёна ў 1919–1922 гадах.**

Люцыян Жалігоўскі скончыў гімназію ў Вільні, афіцэрскую школу ў Рызе. Служыў у расійскай арміі. Найбольш цікавыя старонкі яго жыцця звязаныя з нядоўгім існаванннем дзяржавы, якая займала частку нашага рэгіёна, граніца якой пралягала праз Валожын, Маладзечна, Вілейку, – Сярэдняй Літвы.

Памер 9 чэрвеня 1947 года ў Лондане, пахаваны ў Варшаве на славутых могілках Павёнзкі.

## Сярэдняя Літва

Гісторыі вядомыя памкненні Юзафа Пілсудскага стварыць федэрацыйную дзяржаву, куды б уваходзілі і беларускія землі. Паводле Пілсудскага і яго атачэння, Другая Рэчпаспалітая павінна была ўключаць уласна Польшчу, Русь, а таксама Былое Княства Літоўскае, падзеленае на ўласна Літву са сталіцай у Коўне, Сярэднюю Літву (Вільня), частку са сталіцай у Мінску. Гісторыя распарадзілася інакш. Аднак у 1920 –1922 гадах, усё ж, насуперак планам Антанты, бальшавіцкай Расіі, была створаная і існавала дзяржава Сярэдняя Літва, са сваім урадам, іншымі дзяржаўнымі інстытутамі. Гэта не была Беларусь, хаця большасць земляў – тэрыторыя сённяшняй Беларусі, гэта не была Літва (у сённяшнім разуменні), але гэта не была і Польшча. Дзяржава толькі мела шанцы стаць пераемніцай Вялікага Княства Літоўскага.

7 кастрычніка 1920 года паміж Польшчай і Літвой была падпісаная дамова, якая абавязвала бакі да ўстрымання ад вайсковых дзеянняў, пакідаючы адкрытым пытанне прыналежнасці Вільні і Віленшчыны. Аднак ужо 8 кастрычніка адбыўся так званы бунт літоўска-беларускай дывізіі, якой камандаваў генерал Люцыян Жалігоўскі. Войскі, якія афіцыйна дзейнічалі насуперак волі кіраўніка польскай дзяржавы Пілсудскага, без цяжкасцяў адбілі Вільню ў палякаў. На самой справе існуе шмат доказаў таго, што Жалігоўскі дзейнічаў са згоды самога Пілсудскага, таксама ураджэнца Віленшчыны, можна сказаць, нашага земляка. Ужо на наступны дзень Жалігоўскі выдае адозву "Да народу Сярэдняй Літвы". Адозва мела федэрацыйны характар, у ёй сцвярджалася, што насельніцтву, якое жыве на тэрыторыі Сярэдняй Літвы, хопіць гандлявання уласнай дзяржавай як таварам без душы".

12 кастрычніка Люцыян Жалігоўскі, як галоўнакамандуючы войскамі Сярэдняй Літвы, выдае Дэкрэт №1, у якім заяўляе аб пераходзе вярхоўнай улады да яго. Выканаўчую ўладу бярэ на сябе Часовы выканаўчы камітэт. Паступова пачалася падрыхтоўка да пачатку функцыянавання Сярэдняй Літвы як дзяржавы. Была створаная судовая сістэма. У студзені урэгуляваныя праблемы з грамадзянствам жыхароў Сярэдняй Літвы. Зацверджаныя дзяржаўныя сімвалы: на гербе, які ўяўляў сабою шчыт, месціліся злева Пагоня, справа – белы Арол. На чырвоным сцягу таксама размяшчаліся Пагоня і Арол.

Пасля доўгай і цяжкай падрыхтоўкі былі праведзеныя выбары ў Сейм. У гэтых выбарах агульная актыўнасць выбаршчыкаў складала 64 працэнты. Сярод беларусаў гэты паказчык быў роўны 41%. Найбольшую колькасць мандатаў здабыў Польскі Цэнтральны Выбарчы Камітэт – 43 і народныя Саветы – 34.

Ад самага пачатку адбыўся падзел на фракцыі. Прапорцыі гэтага падзелу і вырашылі, урэшце, далейшы лёс Сярэдняй Літвы. У парламенце новай дзяржавы перамаглі настроі далучэння Сярэдняй Літвы да Польшчы, што і адбылося, урэшце, увесну 1922 года. Сярэдняя Літва перастала існаваць, не спраўдзіўшы мараў Жалігоўскага і Пілсудскага аб самастойнай дзяржаве – пераемніцы Вялікага Княства Літоўскага.

## Пасля Сярэдняй Літвы

А Люцыян Жалігоўскі працягваў сваю вайсковую кар'еру. У 1925 годзе ён становіцца Міністрам вайсковых спраў Польшчы. З яго дапамогай Пілсудскі здзейсніў у 1926 годзе ваенны пераварот. З 1927 года – на пенсіі. У 1935 – 1939 гадах выбіраўся дэпутатам (паслом) у Сейм Рэчыпаспалітай, пасля верасня 1939 года спачатку быў у Францыі, пасля ў Англіі, дзе ў 1942 – 1945 гадах уваходзіў у склад Народнай Рады Рэчыпаспалітай Польшчы.

Ёсць звесткі пра тое, што ў міжваенны перыяд Люцыян Жалігоўскі меў сентымент да беларушчыны. У прыватнасці, ён наведваў беларускія літаратурныя вечарыны ў Вільні. На адной з такіх вечарын, па сведчаннях Максіма Танка, генерал размаўляў з паэтам, пытаючыся, чаму заходнебеларуская паэзія мае такі радыкальны характар. Адважыўшыся калісьці на вельмі адчайны ўчынак – зрабіўшы насуперак волі Антанце, Літве, Расіі спробу ўтварыць самастойную дзяржаву на тэрыторыі Віленшчыны, ён праз некаторы час здзіўляўся проста смеламу паэтычнаму слову. Але не асуджаў.

Віленшчыненазаўсёды наканавана быць сімвалам адзінства і супярэчнасцяў, сімвалам здзяйснення мар адных і руйнавання мар іншых, сімвалам барацьбы за волю народаў, лёс якіх неад'емны ад паняцця Вільня.

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

**25 САКАВІКА – ДЗЕНЬ ВОЛІ**

# Адкуль нашыя герб і сцяг?

**Гербы і сцягі людзі прыдумалі даўно. Рыцары ў цяжкіх жалезных латах малявалі знакі свайго роду - гербы - на шчытах. А да вострай дзіды (кап'я) прывязвалі кавалачкі тканіны, якія і назвалі сцягамі. Па гербах на шчытах і па каляровых сцягах ваяры маглі ў гарачым баі пазнаць, дзе свае, а дзе чужынцы. Лічылася, што войска, якое страціла сцяг, пацярпела паразу і пакрылася ганьбай. Таму сцяг берaглі як вока. Беларусы адвеку шанавалі герб Пагоня і бела-чырвона-белы сцяг (як і наогул белы і чырвоны колеры).**



**Старажытная «Пагоня» да 1996 года была дзяржаўным гербам.**

Герб Пагоня прыйшоў да нас з даўніх часоў. Срэбны рыцар на кані скача па горадзе і кліча: «Пагоня! Пагоня!» Гэты кліч азначаў, што на мірную беларускую зямлю напалі чужынцы, і ўсе мужчыны павінныя стаць на яе абарону, разбіць ворага і гнаць да мяжы.

У правай руцэ рыцара меч, у левай шчыт з залатым крыжам. Шасціканцовы крыж – гэта знак і цёплага Сонца-Ярылы.

На пячатках беларускіх князёў Міндоўга, Жыгімонта (1398 г.) і мсціслаўскага князя Лугвена-Сямёна Альгердавіча (XIV-XV ст.) галоўнае месца займае Пагоня.

У розных краін – розныя гербы і сцягі. Па гербах відаць, якія знакі мужнасці, справядлівасці, магутнасці шануюць у гэтай краіне. Герб Чэхіі – леў, на гербе Швецыі тры залатыя кароны, палякі маюць на гербе арла, а на гербе далёкай Аўстраліі бачым кенгуру і страуса. Сцягі вывешваюць і падымаюць на святы. Людзі шануюць сцягі сваіх краінаў. Напрыклад, фіны штораніцы ўзнімаюць над дамамі свой фінскі сцяг - залаты крыж на блакітным палотнішчы. Вельмі любяць свой зорна-паласаты сцяг амерыканцы і нават співаюць пра яго песні. Украінцы маюць блакітна-жоўты сцяг, рускія – бела-сіне-чырвоны, немцы – чорна-чырвона-жоўты.

**З кнігі Вінцука Вячоркі «Пра герб і сцяг».**

# Са Звароту Беларускай асацыяцыі журналістаў

**Да гадавіны падзей 25 сакавіка 2000 года**

Прайшоў роўна год з таго дня, калі супрацоўнікі сілавых структур правялі масавыя проціпраўныя затрыманні беларускіх і замежных журналістаў, якія працавалі на асвятленні акцыі "Дзень волі". Тады былі затрыманыя 36 карэспандэнтаў сродкаў масавай інфармацыі. Да іх прымянялася грубая фізічная сіла, аказваўся маральна-псіхалагічны ціск, былі знішчаныя знятыя матэрыялы, пашкоджаная дарагая апаратура.

Пасля затрымання журналістаў больш за дзве гадзіны ўтрымлівалі на тэрыторыі вайсковай часці МУС. Нікому з іх не дазволілі паведаміць пра сваё затрыманне ў рэдакцыі, родным і блізкім. Пры вызваленні журналістам не прынеслі ніякіх прабачэнняў. Некалькіх з іх вывезлі за межы Мінска і там пакінулі.

Беларуская асацыяцыя журналістаў запатрабавала правесці расследаванне гэтага інцыдэнту. Аднак МУС і пракуратура, якія прызналі факт парушэнняў закону, імёны вінаватых так і не назвалі.

Мінулы год паказаў, што стаўленне ўладаў Беларусі да незалежнай прэсы не змянілася. Больш за тое, прэсінг на рэдакцыі незалежных выданняў узмацніўся і накіраваны на падаўленне іх інфармацыйнай актыўнасці.

Паўсядзённай практыкай зрабіліся выпадкі адмаўлення журналістам у прадастаўленні інфармацыі і акрэдытацыі. Сярод журналістаў насаджваецца пачуццё страху. Да гэтага часу невядомы лёс аператара ОРТ Дзмітрыя Завадскага, які знік пры загадкавых абставінах 7 ліпеня 2000 года. Кантралюючыя органы праводзяць працяглыя праверкі фінансава-гаспадарчай дзейнасці выданняў, выносяць неабгрунтаваныя папярэджанні, накладаюць разаральныя штрафы. Працягваецца дыскрымінацыйная тарыфная і цэнавая палітыка.

Напярэдадні важных падзей, якія чакаюць нашу краіну ў гэтым годзе, падобнае стаўленне да СМІ можа стаць адным з фактараў сацыяльнай напружанасці ў грамадстве.

Беларуская асацыяцыя журналістаў чакае ад цяперашніх уладаў:

1. Захавання канстытуцыйных нормаў і стварэння, у адпаведнасці з імі, належных умоў для дзейнасці сродкаў масавай інфармацыі.

2. Спынення пераследавання незалежных журналістаў. Неабходна даць грамадству ясны і недвухсэнсоўны адказ пра лёс Дзмітрыя Завадскага.

3. Выключэння дыскрымінацыі незалежнай прэсы, якая праяўляецца, у прыватнасці, у абмежаванні доступу да інфармацыі і няроўнасці эканамічных умоў дзейнасці.

4. Спынення вынясення неабгрунтаваных папярэджанняў у адрас сродкаў масавай інфармацыі.

5. Прыпынення распрацоўкі законапраекта "Аб інфармацыйнай бяспецы", які можа стаць сродкам расправы са свабоднай прэсай.

Грамадскае аб'яднанне "Беларуская асацыяцыя журналістаў" звярнулася да міжнародных арганізацый, прафесійных саюзаў журналістаў і ўсіх, каму дарагія прынцыпы свабоды слова, з заклікам выказаць сваю салідарнасць з журналістамі Беларусі.

**НАШЫЯ ІНТЭРВ'Ю**

# Скульптура – вечная справа

**МІНСК. 38–гадовы скульптар Валяр'ян Янушкевіч заканчвае работу над помнікам Міхалу Клеафасу Агінскаму, які будзе стаяць каля маладзечанскага музычнага вучылішча, што носіць імя гэтага славутага беларуса. Рабочыя мовы ў Янушкевіча дзве – беларуская і скульптура.**

**– Як з'явілася ідэя зрабіць помнік Агінскаму?**

– Думкі наконт гэтага ўзніклі даўно, а рабіць помнік я пачаў у 1996 годзе.

**– Чаму менавіта Агінскі?**

– Такіх людзей, як ён, у Беларусі было мала. Міхал Клеафас шмат зрабіў для маладзечанскага рэгіёна, для краіны ў цэлым. Асабіста я лічу, што лепшага кампазітара на беларускай зямлі няма.

**– Што вас, скульптара, звязвае з музыкай?**

– Я заўсёды ёй цікавіўся. У дзяцінстве нават вучыўся ў Рэспубліканскай школе-інтэрнаце па музыцы і выяўленчым мастацтве. Усіх калісьці нешта прываблівае больш, чым астатняе. Кожнаму сваё.

**– І як вы знайшлі гэтае "сваё"?**

– Яшчэ ў 1982 годзе пачаў удзельнічаць у мастацкіх выстаўках, а праз пяць год скончыў аддзяленне скульптуры Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Потым працаваў у творчых майстэрнях Акадэміі мастацтваў СССР.

**– Пазнаёмце са сваімі асноўнымі работамі.**

– Помнікі Адаму Міцкевічу ў Навагрудку і Лідзе, Францыску Скарыне ў Лідзе, Кракаве, Падуі, Міхалу Клеафасу Агінскаму ў Фларэнцыі.

**– Ці выгадна займацца скульптурай?**

– Справа непрыбытковая. Але вечная, у тым ліку, і пры рабоце над адным помнікам; яна можа ісці бясконца. Смешна выглядае той майстар, які кажа: "Я ўсё зрабіў!" На самой справе праз некаторы час ён можа зразумець, што стварыць можна было крыху інакш. І лепш.

**– З чаго робіцца скульптура?**

– Патрэбна шмат кампанентаў. Асноўныя з іх – жалеза, пластылін, бронза.

**– На ваш погляд, ці патрэбная скульптура ў Беларусі?**

– Абсалютна! Згадайце, колькі помнікаў было створана, калі ў нас пачало распаўсюджвацца хрысціянства.

**– Тое было даўно, я ж пытаюся пра наш час.**

– Цяпер да скульптуры часта адносяць нейкія іншыя напрамкі. Нехта зляпіць квадрат і гаворыць, што гэта прыгожа. Няхай бы такія "майстры" прыдумалі назву свайму напрамку і тварылі. Не трэба называць любую рэч з пластыліну скульптурай, бо скульптура – гэта фігуратыўнае мастацтва, якое ўплывае на свядомасць людзей і выхоўвае іх духоўна.



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

**Валяр'ян Янушкевіч у мінскай майстэрні каля макета свайго помніка Агінскаму.**

**Юлія ВАНСЛАЎ.**

